і не было імёнаў і прозвішчаў — іх называлі па нумарах. І вось падпольшчыкі паведамілі, што на наступную раніцу падлягае адпраўцы ў крэматорый нумар N. Менавіта гэты нумар насіў Разанаў. І тут жа новае паведамленне: памёр француз з нумарам вось такім, трэба хутка абмяняцца нумарамі жывому з мёртвым… Так да Сцяпана прыйшло выратаванне, і ён апынуўся ў ліку тых шчасліўцаў, якія былі вызвалены з канцлагера войскамі нашых саюзнікаў.

## Маці з дачушкай Любай у час акупацыі

…Надзея Крыпан, якая ўжо чакала дзіця, пасля арышту мужа доўга нічога не ведала пра яго лёс. Затым яна са сваёй маці Сцепанідай перабралася ў Сялец, дзе пасялілася ў хаце ксяндза, які з’ехаў у 1939 годзе ў Польшчу. Там у той час у школе размяшчаўся паліцэйскі ўчастак, дзейнічала — назавём яе так — участковая лякарня. У ёй і стала працаваць акушэрка Надзея Крыпан. Яна была незаменным чалавекам для парадзіх не толькі ў Сяльцы, але і ў навакольных вёсках і шматлікіх па тым часе хутарах. Больш пешшу, а часам на падводзе, што прыязджала па яе, яна дабіралася ў любую пару года і ў любы час туды, дзе патрабавалася яе дапамога. Была яна і акушэркай, і бабкай-павітухай, а ў іншых выпадках і хроснай маці. А ў лістападзе 1942-га Надзея Крыпан і сама стала маці — яна нарадзіла дзяўчынку, якой далі ласкавае імя Люба, Любачка. Але і да родаў, і пасля іх Надзея Крыпан, выкарыстоўваючы сваю магчымасць перамяшчэння па вёсках, увесь час падтрымлівала сувязь з партызанамі. Добра вядомы на Пружаншчыне, ды і сярод былых партызанаў і падпольшчыкаў Бярозаўскага раёна Уладзімір Касьянавіч Гузаў, які ў шэрагах народных мсціўцаў знаходзіўся з ліпеня 1941 года, 19 кастрычніка 1984 года напіша: «Пацвярджаю, што Крыпан Надзея Іванаўна была сувязной партызанскага атрада імя Кірава брыгады імя Панамарэнкі Брэсцкага злучэння з ліпеня месяца 1943 года па ліпень 1944 года. Будучы сувязной, Крыпан Н.І. перадавала ў атрад імя Кірава медыкаменты, перавязачны матэрыял для параненых партызанаў. Крыпан Н.І. мела сувязі з падпольнай арганізацыяй у в. Скорцы,

дастаўляла медыкаменты ў арганізацыю, а адтуль іх атрымлівалі партызаны. У падпольнай арганізацыі Крыпан атрымлівала ўлёткі пра становішча на франтах і распаўсюджвала сярод насельніцтва ў в. Сялец».



*Надзея Крыпан з маці Сцепанідай і дачкой Любай. Сялец. 1943 год. Фота з сямейнага архіва А.С. Разанава*

Зразумела, маладую жанчыну што ні крок падсцерагала небяспека. Але бяда прыйшла наогул адтуль, адкуль яе не чакалі. Пасля забойства партызанамі пастаўленага нямецкімі ўладамі камендантa вёскі Малеч Аўгусціновіча пракацілася хваля арыштаў, якая дайшла і да Сяльца. Мабыць, у чымсьці была западозраная і Надзея Крыпан, якую таксама арыштавалі і разам з гадавалай дачкой Любай адправілі ў Бярозу для наступнага этапавання на фабрыку смерці на Броннай Гары. Рыхтуючы сваю крывінку ў апошні шлях, Надзея, заліваючыся слязьмі, паспела яе прыбраць ва ўсё самае лепшае, што было ў сціплым гардэробе гэтага нявіннага стварэння. Бялявая, уся ў кудзерках, Любка не разумела, якая доля навісла над лёсам яе мамы і ёй самой. Яна цешылася сваім убраннем, увесь час штосьці лапатала і нават спрабавала прытанцоўваць на руках у маці. Гледзячы на дзяўчынку, міжволі святлелі тварамі асуджаныя на пагібель людзі. Таксама звярнуў увагу на яе і нямецкі афіцэр.

— Якое прыгожае дзіця, шкада забіваць, — вымавіла перакладчыца, што стаяла побач з ім.

— Чыё гэта дзіця? — пацікавіўся афіцэр.

І гэтая жанчына, імя якой невядома, але да якой Надзея Іванаўна праз усё сваё жыццё захавала велізарную нявыказаную ўдзячнасць, не задумваючыся, адказала немцу:

— Гэта дачка нямецкага афіцэра, якога ўжо няма ў жывых, ён загінуў на Усходнім фронце.

Такі адказ-экспромт нечакана вызначыў лёс Надзеі Крыпан і яе дачкі — яны былі вызвалены і адпушчаны дахаты. Немец, аднак, праз перакладчыцу папярэдзіў:

— Сёння я вас адпускаю, але наступны раз пры найменшым падазрэнні літасці не будзе.

Так паводле збегу акалічнасцяў два, здавалася б, асуджаныя на смерць чалавекі вярнуліся да жыцця ад самага краю брацкай магілы.

Надзея Крыпан пасля вяртання ў Сялец сфатаграфавалася са сваёй маці і Любай у мясцовага фатографа ў тым жа 1943 годзе, што і Сцяпан Разанаў. І гэтая фатаграфія таксама захавалася да нашых дзён. Ведаючы ўсё перажытае гэтымі людзьмі, міжволі прыходзіш да высновы пра нейкае містычнае супадзенне.

Нягледзячы на папярэджанне, акушэрка Надзея Крыпан, працягваючы працаваць у Сяльцы, з не меншай рызыкай, чым раней, заставалася партызанскай сувязной. І зноў гэта ледзь не скончылася трагічнай развязкай.

У адзін з летніх дзён Надзея Крыпан прыйшла ў названую Гузавым явачную кватэру ў вёсцы Скорцы, дзе сустрэлася з двума партызанамі з кіраўскага атрада, якія чакалі яе. Калі Надзея паднялася да іх на гарышча хаты, нечакана пачуўся ўсхваляваны голас гаспадыні:

— Бяда, у вёсцы з’явіліся немцы і паліцаі!

Ці была гэта планавая аблава, якія перыядычна праводзіліся ў вёсках, ці гэтым разам няпрошаныя «госці» з’явіліся тут выпадкова, сказаць цяжка. Але факт застаецца фактам: яны пачалі абыходзіць хаты, з аўтаматамі напагатове, правяралі хлявы, скляпы і іншыя пабудовы. Так чарга дайшла і да хаты, дзе была явачная кватэра, на гарышчы якой за пустымі бочкамі схаваліся два ўзброеныя партызаны і адна бяззбройная жанчына.

І вось пачуліся гартанныя галасы, на ламанай рускай мове хтосьці пытаў пра партызанаў, а гаспадыня хаты, якая прадбачліва паспела пакласці поруч сцяны драбіну, усё катэгарычна адмаўляла. Але адзін з немцаў прыставіў драбіну і стаў паднімацца па ёй угару.

Надзея Крыпан чула крокі немца, які ўздымаўся па драбіне, і біццё свайго сэрца.

— Я ўжо развіталася з жыццём, — распавядала яна пазней. — Разумела, што партызаны, можа, і здолеюць адбіцца і знойдуць схованку ў блізкім лесе, а для мяне тут ужо сапраўды прыйдзе канец.

На шчасце, нічога падазронага ён не заўважыў, на гарышча, каб абследаваць бочкі, паднімацца не стаў, і партызанам ужываць зброю не давялося. Пранесла! Неўзабаве аблава скончылася, немцы і паліцаі з'ехалі ў бок Пружанаў.

А Надзея Крыпан, ачуняўшы пасля перажытага, накіравалася дахаты, у Сялец.

Не раз успамінаючы потым той выпадак, яна распавядала, што, калі ішла, не адчувала пад нагамі зямлю. Здавалася, што за плячамі выраслі крылы, якія неслі яе па паветры. А навакольная прырода — незвычайна зялёная трава, дрэвы і хмызнякі, бяздоннае сіняе неба здаваліся казачна прыгожымі і адухоўленымі. Гэта быў нейкі гімн адраджэння чалавека.

## Доўгая дарога дамоў

Такое, кажуць, бывае толькі ў кіно. Бывае, і ў жыцці здараюцца даволі займальныя сітуацыі.

У 1939 годзе ў нямецкі палон патрапіў Мікалай Яцкевіч, які служыў у польскім войску. А быў ён родам з Сяльца. Хапіў былы салдат усякага за гады няволі ў чужой Нямеччыне, але лёсам яму было наканавана выжыць і выпадкова сустрэцца са Сцяпанам Разанавым у канцлагеры Маўтхаўзен ужо пасля яго вызвалення. І калі Сцяпан даведаўся, што Яцкевіч родам з Сяльца, што ён збіраецца вяртацца на радзіму, то папрасіў адшукаць у Бярозе

медсястру Надзею Крыпан і, калі яна жывая, перадаць прывітанне ад мужа, гэта значыць ад яго — Сцяпана Разанава.

Яцкевіч просьбу дзіўнага незнаёмца выканаў. Надзею Крыпан ён знайшоў не ў Бярозе, а ў яго родным Сяльцы і перадаў ёй прывітанне ад нейкага старога, які назваўся яе мужам Сцяпанам Разанавым. Гэтая вестка абудзіла нямала пачуццяў у душы жанчыны, ускалынула надзею, якая ў яе ніколі не праходзіла, на тое, што муж яе жывы, што ён усё ж адгукнецца. Але чаму ж стары? Бо Сцяпану ўсяго трыццаць пяць…

Тым часам, пасля ўсяго перажытага Сцяпан Разанаў і сапраўды выглядаў старым. Стаўшы вольным чалавекам, ён так і не наважыўся ў такім змучаным выглядзе ехаць у Бярозу, а адправіўся на сваю радзіму ў Тамбоўскую вобласць. Гэтая пасляваенная, перагружаная дарога да бацькоўскага дому была і няпростай і доўгай, але прывяла да шчаслівага канца. Праўда, у Вялікай Ржаксе яго дачакалася толькі маці, а бацька пры няясветленых акалічнасцях загінуў у Маскве. Сцяпан працаваў у калгасе, дапамагаў маці ў яе няхітрай гаспадарцы, аднавіў сілы, здабыў выгляд чалавека свайго ўзросту і адправіўся зноў на захад, у Беларусь. Сваю жонку і дачку Любу, якая нарадзілася без яго, ён адшукаў у Сяльцы ў снежні 1945 года і, здавалася, здабыў душэўны супакой.

## Пад родным дахам

Пасля ваеннай разрухі жыццё паступова ўваходзіла ў хоць і нялёгкае, але мірнае рэчышча. Гады акупацыйнага ліхалецця загартавалі характар Надзеі Крыпан, але не забілі лепшыя чалавечыя якасці. Яна з галавой акунулася ў свае акушэрскія клопаты ў Сялецкай участковай лякарні, балазе пасля вайны медпрацаўнікам яе профіля справаў у шмат разоў дадалося. Былы раённы акушэргінеколаг Валянціна Дзмітрыеўна Вяржбіцкая адзначае:

— Надзея Іванаўна была вельмі адказным чалавекам, падчас праверак да яе практычна не было прэтэнзій. Жанчыны-пацыенткі да яе ставіліся з вялікай павагай і з не меншым даверам, а гэта ў

такой тонкай справе, як акушэрства, мае немалаважнае, а часам і вызначальнае значэнне.

А Сцяпан Іванавіч пасля прыезду ў Сялец адзін час працаваў прадаўцом у краме, затым стаў нарыхтоўшчыкам другаснай сыравіны. На запрэжаным у воз спакойным коніку ён аб’язджаў вёскі і хутары, збіраў у людзей рыззё, пакулле, стары алюмініевы посуд, косці, пяро, а наўзамен прывозіў ніткі, іголкі, грабеньчыкі, жаночыя хусткі, фарбавальнікі для тканін, іншыя вельмі патрэбныя ў паўсядзённым жыцці кожнай сям’і няхітрыя тавары. Але пасля ўсяго перажытага, асабліва ў нямецкіх канцлагерах, у яго было падарвана здароўе, яго праследавалі настальгічныя відзежы ўсяго таго, што давялося зведаць, і нейкае пачуццё віны перад тымі сулагернікамі, якія скончылі свой жыццёвы шлях у крэматорыі. Думкі, якія бударажылі яго, назапашаныя ў душы перажыванні Сцяпан Разанаў давяраў спецыяльнаму сшытку, спрабаваў выказаць у вершаванай форме:

Я видел свет,
прорвавшийся сквозь тучи,
Я видел свет,
озаривший тьму,
Я видел свет,
в котором нас сжигали…
Остался жив —
не знаю почему.

Усе гэтыя перажыванні, сумневы, пастаянныя нелады са здароўем прывялі да таго, што Сцяпан Разанаў прыахвоціўся да спіртнога. Сын Саша, які нарадзіўся ў Надзеі Іванаўны і Сцяпана Іванавіча ў 1947 годзе, у 1975 годзе — ужо вядомы беларускі паэт Алесь Разанаў, у «Паэме рыбіны» з болем у душы так пісаў пра гэту бяду роднага бацькі:

*«Які з цябе быў гаспадар — і над сабою не ўладны: то чорная скруха, то бесклапотнае блазнаванне, то непрабудныя п’яныя тыдні, калі ўсёй хаце балючы і невыносны, то хворы — не адарвешся ад ложка».*

Такая вось атрымалася проза жыцця.

## Эпілог

Падчас нядаўняй нашай сустрэчы Алесь Разанаў вельмі цёпла ўспамінаў пра сваіх бацькоў.

— Мая мама, — казаў ён, — была вельмі цікавая апавядальніца. Яе ўспаміны пра пражытае літаральна зачароўвалі. У людзях яна імкнулася бачыць толькі добрае і да самаадданасці гатовая была прыйсці ім на дапамогу ў цяжкіх сітуацыях.

Пра бацьку:

— Ён вельмі бярог набытую дзесьці кнігу «Жывыя змагаюцца», аўтарам якой быў французскі пісьменнік, удзельнік Руху Супраціву Жан Лафіт, які быў арыштаваны ў 1942 годзе гестапа і прайшоў праз канцлагеры Маўтхаўзен і Эбензэ.

У бацькі быў нейкі прыродны нюх да духу паэзіі, а яго парывы, імпульсы, пачуцці міжволі перадаваліся і мне, уваходзілі ў маё цела і кроў. Успамінаю, з якой непадробнай радасцю, гонарам і хваляваннем ён успрыняў публікацыю ў друку маіх першых вершаў.

А мне падумалася: як бы пацешыўся Сцяпан Іванавіч за свайго сына, аўтара шматлікіх зборнікаў, паэта еўрапейскага маштабу, калі б ён дажыў да нашых дзён. І няма сумневу, што ва ўсім тым, што датычыць творчасці Алеся Разанава, не апошняе месца займае і генны пачатак яго бацькоў.

Надзея Іванаўна пакінула нас, пражыўшы 81 год, Сцяпан Іванавіч — у 76. Любоў Сцяпанаўна Разанава (цяпер — Нікіціна) шмат гадоў адпрацавала медсястрой у дзіцячым садку ў Бярозе, цяпер на пенсіі. Алесь Сцяпанавіч Разанаў жыве ў Мінску, часта і падоўгу бывае ў замежных паездках. У 2003 годзе па запрашэнні мясцовых літаратурных аб'яднанняў знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы ў Аўстрыі і наведаў канцлагер-музей Маўтхаўзен, у якім яго бацька прайшоў праз усе пакуты створанага гітлераўцамі пекла.

## • Заксенхаўзен •

*(Konzentrationslager Sachsenhausen)*

*Нацысцкі канцэнтрацыйны лагер у Германіі, за 30 км на поўнач ад Берліна, сёння — раён горада Араніенбург. Створаны ў ліпені 1936 года. З канцлагерам Заксенхаўзен былі звязаны 42 яго філіялы і 10 будаўнічых брыгад.*

*Зняволеных выкарыстоўвалі для рабскай працы для нямецкіх кампаній, напрыклад на авіяцыйным заводзе Heinkel у Араніенбургу, на фабрыцы Siemens ці AEG у суседнім Берліне.*

*У лагеры Заксенхаўзен праводзіліся злачынныя медычныя эксперыменты на зняволеных, якія часта сканчаліся смерцю або інваліднасцю. У 1941 годзе на савецкіх ваеннапалонных адбылося выпрабаванне новага спосабу знішчэння людзей — атручэння газам у прыстасаваных для гэтай мэты грузавіках. У 1942 годзе ў канцлагеры была пабудавана газавая камера і крэматорый, а таксама спецыяльны расстрэльны пакой, у якім было забіта звыш 10 тыс. вязняў, целы якіх потым былі спалены.*

*У Заксенхаўзене існаваў падпольны камітэт супраціву, які кіраваў разгалінаванай, добра заканспіраванай лагернай арганізацыяй, якую гестапа не здолела раскрыць.*

*21 красавіка 1945 года, у адпаведнасці з аддадзеным нацысцкім кіраўніцтвам загадам, пачаўся Марш смерці. Планавалася звыш 30 тыс. вязняў калонамі па 500 чалавек перакінуць на бераг Балтыйскага мора, пагрузіць на баржы, вывезці ў адкрытае мора і там іх затапіць. Тых, хто адставаў, і знясіленых людзей расстрэльвалі па дарозе. Аднак, задуманае масавае знішчэнне вязняў ажыццявіць не атрымалася — у першых днях мая 1945-га савецкія войскі вызвалілі калоны на маршы. Сам лагер быў вызвалены савецкімі і польскімі войскамі 22 красавіка 1945 года. У лагеры на той момант заставалася каля 3000 вязняў.*

*Колькасць вязняў у канцлагеры ў розныя гады даходзіла да 60 тыс. чалавек. На тэрыторыі Заксенхаўзена загінула ў розны спосаб звыш 100 тыс. вязняў.*

*У ацалелых будынках і на тэрыторыі былога канцлагера сёння дзейнічае музей, урачыста адчынены 23 красавіка 1961 года.*



**ЗИМОВЕЦ Эдуард Михайлович**
*Родился в 1924 году и до войны жил в Киеве (Украина). Вывезен на принудительные работы в Германию. Бывший узник концлагеря Заксенхаузен (Германия). Проживает в Бресте.*

# Поле памяти

Можно сказать, что я, Эдуард Зимовец, родился дважды в один и тот же день — 15 апреля. Сначала появился на свет в 1924 году в Киеве, где прошло моё детство, оборванное войной. А во второй раз — снова 15 апреля 1945-го, когда 18-я танковая бригада освободила меня вместе с другими узниками концлагеря Заксенхаузен, которых нацисты, заметая следы своих преступлений, намеревались утопить в Балтийском море.

Моя довоенная биография укладывается в несколько строчек. Вместе с мамой я жил в одном из бывших служебных помещений Софийского собора в Киеве. Мама пела а церковном хоре… Как все мальчишки, я увлекался техникой, по целым дням пропадая во дворе у грузовика. Тогда и получил первые уроки вождения. Но 19 сентября 1941 года немцы заняли Киев…

В мае 1942-го меня вместе с другими подростками вывезли на работу в Германию, где пришлось рыть траншеи для закладки труб. Неосторожное слово, сказанное при свидетелях, отправило меня, мальчишку, в одиночную камеру тюрьмы. А через некоторое время, 3 марта 1943 года, я был перевезён в концентрационный лагерь Заксенхаузен.

Находясь ежеминутно между жизнью и смертью, пробыл там почти два года. Два года в настоящем аду… Тем, кто знает о войне по книгам и фильмам, очень трудно себе представить весь ужас

того, что пережили мы. Как ни старались фашисты, не смогли убить или сломить волю человека, сделать его бессловесным покорным рабом. Даже в таких условиях в концлагере действовала подпольная организация, задания которой я не раз выполнял. Меня подвергали пыткам, сажали в карцер… Однако сумел выжить даже после того, как сделали операцию без наркоза.

При приближении восточного фронта к Ораниенбургу фашисты решили уничтожить узников концлагеря Заксенхаузен, утопив их в море. Около 60 тысяч заключённых погнали на Шверин разными дорогами. Одних убили охранники, другие по пути умерли от истощения, часть была помещена в трюмы на баржу, которую затем потопили в Балтийском море. Координаты затопления до сих пор неизвестны.

«Марш смерти» закончился у города Кривитц. Закончился освобождением из ада. Уже на следующий день я был зачислен в 18 танковую бригаду. Все эти события я изложил в своих воспоминаниях — документальной поэме «Дорогой смерти», написанной в 2008 году.

## Письмо другу Э. М. Зимовцу от Владимира Воеводченко*

Дорогой Эдуард!

Дорогой побратим по борьбе и страданиям в концлагере Заксенхаузен!

Твои воспоминания о «Марше смерти» — правдивы. Благодаря твоему рассказу мне пришли на память ужасы, творимые озверелыми фашистами, обочины дороги, заваленные трупами узников, потерявших способность двигаться.

Я тоже был участником этого зловещего марша, и, похоже, что мы с тобой шли в одной колонне потому, что описанные тобой события мне известны, и я подтверждаю их правдивость.

---

* Владимир Воеводченко — вице-президент Международного комитета Заксенхаузен.




*Мемориал в бывшем концлагере Заксенхаузен*

Я потерял на этом марше двух своих товарищей по блоку, несовершеннолетних Ваню Дорошенко из Донбасса и Колю Кавуна из Киевской области. В ходе движения вдоль фермерского поля мы увидели кагаты заготовленных кормов для скота, как после оказалось — из брюквы.

Из колонны узники бросились к кагатам, побежали и мы. Я схватил одну брюкву и побежал назад, а Ваня и Коля замешкались в толкотне возле кагатов, охрана открыла огонь, и многие были убиты и ранены. Не вернулись в колонну и мои товарищи, навсегда оставшись на фермерском поле, отдав юные жизни при попытке утолить голод хоть скотским кормом.

Я шел с поляками из блока № 45 и был свидетелем подготовки к нападению на охрану с целью прорыва на свободу. Фронт был рядом, и была надежда, что удастся добраться до своих. Правда, начало выступления мне не было известно, и я спохватился, когда поляки численностью не менее тысячи уже бежали в направлении на восток. Я побежал вслед за ними, пытаясь догнать основную массу, но охрана уже пришла в себя и открыла огонь со всех видов

оружия, полетели и гранаты. Я был ранен, и на этом моё стремление к быстрой свободе закончилось. Я лежал около двух суток, потеряв всякую надежду на спасение, пока меня не подобрали советские танкисты и не определили в полевой госпиталь, да и поляки не все прорвались.

Какова судьба прорвавшихся, мне и по сей день не известно. Руководил подготовкой к прорыву хорошо знакомый мне поляк, бывший польский офицер Генрик Малковски, но удалось ли ему уйти, я не знаю.

Спустя почти пятьдесят лет я пытался найти Генрика Малковского, обращался в польский Комитет бывших узников Заксенхаузена, но в списках его не оказалось.

Я дважды посещал «Марш смерти», искал следы нашего пребывания в Беловском лесу, но многие десятилетия стерли их. И лишь память хранит до сих пор тот кровавый марш, смерть тысячи наших собратьев.

Благодарю тебя, дорогой Эдуард, за воспоминания, всколыхнувшие душу, и дай Бог тебе, дорогой, здоровья и благополучной жизни.

**ШЫЛАВА Лізавета Пятроўна**
*Нарадзілася ў 1930 годзе.*
*Перад вайной жыла ў Пухавіцкім р-не.*
*Была непаўналетнім вязнем у канцлагерах Брандэнбург і Фалькензее — філіялах канцлагера Заксенхаўзен (Германія).*
*Жыве ў г. Пружаны.*

# Час, які немагчыма забыць

Гляджу на цяперашніх падлеткаў і радуюся іх бесклапотнасці. Сваё 14-годдзе я сустрэла ў фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры смерці…

Калі ў Пухавіцкім раёне пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады, мой бацька стаў сувязным. Ён часта бываў у раённым цэнтры, здабываў патрэбную інфармацыю для партызан. І вось аднойчы даведаўся, што нашу сям'ю паліцаі збіраюцца арыштоўваць. Мы вымушаны былі ўцякаць у лес. Гэта адбылося 8 сакавіка 1943 года.

Старэйшыя браты адразу ўліліся ў рады партызанскага атрада імя Ленінскага камсамола Першай мінскай брыгады. Малодшыя дзеці засталіся ў сямейным лагеры «Кляновае» ў лесе за вёскай Міжрэчча. Бацькі выкапалі для нас зямлянку, пабудавалі нары, печ. Пачалося нялёгкае, поўнае небяспекі жыццё.

Аднойчы ноччу з 16 на 17 ліпеня брат Сцяпан, якому ў той час было 16 гадоў, і яшчэ два партызаны пайшлі на заданне і трапілі ў засаду. Сцяпан быў цяжка паранены ў абедзве нагі. Ранкам яго па крываваму следу знайшлі немцы. Аднаго немца ён паспеў забіць. А апошнюю кулю пусціў у сябе.

Другі мой брат Валянцін загінуў на фронце ва Усходняй Прусіі ў сакавіку 1945-га…

У лесе партызанам часта даводзілася мяняць сваё месцазнаходжанне. Але мы заўсёды стараліся быць побач з атрадам, у складзе якога змагаўся Валянцін. Ён быў адважным патрыётам, смела помсціў ворагу за смерць Сцяпана, на яго рахунку было шмат узарваных нямецкіх эшалонаў.

Як мы жылі, колькі ўсяго перацярпелі, немагчыма выказаць звычайнымі словамі.

1 мая 1944 года нямецкія самалёты ўзяліся бамбіць лес. Па калені ў вадзе мы хаваліся ў балоце. Калі па балоце ланцугом пайшлі карнікі з сабакамі, некаторыя людзі, у тым ліку і я, кінуліся ў лес. Але тут нас сустрэлі аўтаматныя чэргі. Так я апынулася ў палоне.

Пачыналася другая старонка жыцця — жыцця ў фашысцкім рабстве. Усіх нас пагрузілі, як жывёлу, у таварныя вагоны. Ехалі доўга — праз Мінск, Брэст, на Варшаву.

Першым прыпынкам быў Асвенцім. Тут усіх пастрыглі, апрацавалі нейкай дэзынфіцыруючай вадкасцю, а вечарам загналі назад у вагоны і павезлі далей — у Германію.

Не ведаю, чаму нас не пакінулі ў Асвенціме. Але і аднаго дня хапіла для таго, каб ніколі не забыць гэты жудасны лагер смерці, — з чорным дымам, які без перапынку валіў з труб крэматорыяў…

У Германіі таварняк спыніўся ў лесе каля горада Брандэнбурга. Тут мы зноў прайшлі апрацоўку і ўпершыню за ўвесь час атрымалі порцыю баланды і пітной вады. А на наступны дзень у лагер прыехалі нямецкія баўэры і пачалі выбіраць сабе рабоў. Хто быў больш моцны і здаровы, тых забралі адразу. А мы стаялі на гэтым рынку тры дні. Я была вельмі худзенькай, невысокага росту. І спатрэбілася толькі для работы на кухні: мыла посуд, катлы, лупіла бульбу. Побач працавалі рускія, французы, італьянцы…

Жылі худа-бедна. І сярод немцаў знаходзіліся людзі. Але праз тры месяцы гэты лагер расфармавалі, І мы апынуліся ў Фалькензее. Гэта была вялікая тэрыторыя, абнесеная ў некалькі радоў калючым дротам. Я і тут працавала на кухні. Але гэта ўжо была зусім іншая работа. Баланду для вязняў гатавала сама немка. Яна ж праз вялікае акно ў сцяне кухні назірала за тым, як мы працуем. Калі што-небудзь не падабалася, «выхоўвала» нас цяжкай дубінкай.



*Руіны крэматорыя ў канцэнтрацыйным лагеры Заксенхаўзен*

Нягледзячы на тое, што працавалі на кухні, мы не маглі з'есці лішнюю лыжку кашы ці баланды і пастаянна пакутавалі ад голаду.

Акрамя голаду, адольваў холад. Абутку ў мяне не было, толькі драўляныя калодкі на босую нагу. Не было цёплай вопраткі. Працавала з сямі гадзін ранку да дзесяці вечара. Нярэдка прыходзіла дахаты і горка плакала па маме. Мне здавалася, калі б яна была побач, то абавязкова дапамагла б, падтрымала хаця б ласкавым словам.

Я не ведала, што наперадзе яшчэ больш цяжкія выпрабаванні. У студзені 1945-га мяне і яшчэ адну дзяўчыну перавялі ў іншы лагер, вязні якога працавалі на ваенным заводзе. Нягледзячы на ўзрост, мне таксама далі чатыры станкі. І патрабавалі выканання працоўнай нормы, як ад дарослай. Умовы былі такія, што за гэты час я зусім перастала баяцца смерці і нярэдка думала пра яе як пра адзінае збаўленне ад невыносных, нечалавечых пакут…

Аднойчы, прыйшоўшы са змены, мы з жанчынамі ўбачылі ў небе самалёт з чырвонымі зорачкамі на крылах. І зразумелі: лінія фронту ўжо зусім побач! Мы не памыліліся: лагер вызвалілі той жа ноччу з 22 на 23 красавіка савецкія разведчыкі. Усе плакалі ад невыказнай радасці: мы нават не спадзяваліся дажыць да гэтага светлага дня.

Вельмі хацелася дахаты: як там бацькі, брат? Але яшчэ цэлы май я працавала ў ваенным шпіталі. І вось нарэшце зборны пункт, у якім трэба было праходзіць так званую «фільтрацыю». Я лічыла дні, калі змагу сустрэцца з роднымі. Але сустрэчу зноў трэба было адкласці: я захварэла на тыф і яшчэ паўтара месяцы правалялася ў шпіталі.

І вось таварны вагон імчыць нас на радзіму! Мая душа, здаецца, спявала ад радасці і шчасця.

На двары стаяў жнівень. Пачынаўся новы перыяд майго жыцця. Праз месяц я пайшла вучыцца ў школу. Закончыла сем класаў, потым — Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум, па накіраванні якога прыехала на работу ў Пружаны. Потым завочна закончыла Беларускую сельгасакадэмію. Працавала 25 гадоў начальнікам раённай насеннай інспекцыі, 10 гадоў — галоўным аграномам сельгасупраўлення. Выйшла замуж, нарадзіла дзвюх дачок, дачакалася чатырох унучак…

Але хачу зазначыць, што для нас, былых вязняў, першыя пасляваенныя гады былі вельмі цяжкімі, асабліва ў маральным плане. Шмат часу мне даводзілася ўтойваць той факт, што была ў Германіі. Таму што многія вязні фашысцкіх лагераў смерці тут жа аказваліся ў лагерах сталінскіх. Наконт гэтага мяне, як толькі прыехала з Германіі, папярэдзіў начальнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі: маўляў, нікому ніколі не расказвай, дзе ты, дзяўчынка, была. Забудзь пра ўсё, выкінь усё са свайго жыцця!

А хіба гэта магчыма забыць?!

**МИКУЛИК Нестор Иванович**

*Родился в 1926 году в д. Криница Пружанского р-на. Вывезен на принудительные работы в Германию, был узником штрафного лагеря в Гогензальце, концлагерей Заксенхаузен, Хейнкель, Ландсберг. Репрессирован, был узником Каргопольлага. Жил в Бресте.*

# Без вины виноватые

В июле 1941 года всех жителей нашей деревни Криница Пружанского района, в том числе и нашу семью, немцы выселили в Кобринский район, а дома сожгли. Весной следующего года старостой деревни я был зачислен в списки молодежи для отправки в Германию. В это время мне было шестнадцать лет. Нас отвезли в Кобрин с мамой, признали меня на комиссии годным. Спрашиваю у немца: что делать у вас будем? Хлопает меня по плечу: «Гут, гут, коров пасти будешь». Мелькнула мысль убежать, но везде стояли охранники с оружием.

В Германии на бирже труда меня забрал последним к себе бауэр на хутор у деревни Довосфельде, недалеко от города Бойч-Кроне, ныне территория Польши. У бауэра по фамилии Верт я доил коров, готовил корм для скота, пахал, сеял, косил, управлялся с волами. На те мои годы работа была тяжёлой. Вкалывали от рассвета до темна вместе с украинцем Олексой Колобко. Отлучаться из усадьбы не разрешалось, одним словом, неволя.

Как-то спрашивает хозяйка меня: «Ты большевик?» Я был обыкновенным «заходнебеларускім хлопцам», ни в какой партии не состоял, но ответил, не задумываясь: «Да, большевик». Из-за этого ответа был посажен в концлагерь, но об этом чуть позже расскажу.

Пася скотину, иногда почитывал немецкую газетку. До войны учился в польской школе и при Советах осваивал потихоньку немецкий язык. Интересовали меня сводки с Восточного фронта, часом мелькало сообщение и о белорусских партизанах.

Неволя, тяжелая работа на хозяев — своих врагов, романтическое желание партизанить, вера в то, что «кто был никем, тот станет всем», — побудили решиться на побег. Уговорил Колобко, и 10 октября 1943 года ночью, ориентируясь по Большой Медведице, двинулись на восток.

Шли ночами, отдыхали в лесу днём в стогах сена. Были у нас примитивная карта и немного хлеба. На третьи сутки перешли бывшую польско-немецкую границу, осмелились продвигаться по шоссе, но задержал жандарм, ехавший на мотоцикле, и доставил в полицию. Из-за дверей с надписью «арестантен» вывели страшно избитого человека. Стало ясно: здесь пытают, калечат, и мы назвали адрес бауэра, от которого убежали.

Из гестапо нас доставили в штрафной лагерь в Гогензальце. Выстроили вновь прибывших перед конторой. И вот похаживает гестаповец с куском резинового шланга в руке, даёт команду выйти из строя, нагнуться. Нагнулся, эсэсовец врезал со всей силы, командует «нохенмаль». И так разиков пять за встречу бедная моя спина в работе побывала.

Поместили в карантин, в камере оказался земляк из Барановичей. Лежал он на боку, весь исполосован вдоль и поперек, в гнойных ранах. Он рассказал, что уже второй раз пытался бежать из штрафного лагеря, ударил эсэсовца лопатой. Просил, если я останусь жив, передать жене и детям место его гибели. Назвал адрес: Барановичи, улица Минская, дом 95. Фамилию позабыл, начиналась на букву «Б», как будто Барташевич. Одежда его вся была изорвана, растерзана овчарками. Я отдал ему одну свою рубаху. Утром его и ещё одного поляка, собрав весь лагерь, повесили на передвижной виселице.

Через несколько дней меня остригли, перевели в зону, в общий барак. Он не отапливался, и мы мечтали попасть на общие нары: хоть чуть-чуть теплее. По зоне приказали двигаться только бегом. Если переходил на шаг, охрана «крестила» шлангом. В шланг был

вправлен трос и на конце запаян оловянный шарик. В лагере находилось около полутысячи мужчин и человек двести женщин. Женщины содержались в отдельных бараках.

После подъёма заключённые раздевались до пояса, выбегали из барака, строились по двое, по команде «марш ин ватраум» мчались в умывальник. В дверях стоит эсэсовец, упражняется шлангом по спинам. Потом завтрак — одна кружка эрзац-кофе из молотого жареного ячменя без хлеба. После «кофею» под конвоем водили за пределы зоны на сельхозработы, выдав серые полотняные брюки, куртку и головной убор. За считанные минуты должен переодеться, не поддевая под низ ничего «цивильного». На тех, кто одевал своё, натравливали овчарок. Собачьи клыки рвали и того, кто что-нибудь приносил в кармане — табак, хлеб, брюкву, свеклу. Оставшиеся в зоне чистили песком ложки, посуду, собирали соломинки, посыпали песком дорожки. Даже если работа была сделана, никто не имел права идти в барак, присесть где-нибудь.

Нас заставляли учить немецкие песни, с которыми шагали на обед — пятьсот граммов «зуппе», взболтанной мучной баланды, иногда с добавкой капусты, шпината, брюквы. Вечером двести граммов того же кофе. Мяса и сахара не полагалось.

Каждый вечер проводилась проверка: выстраивался четырёхугольником весь лагерь, внутри находились эсэсовцы с овчарками. Стояли по команде «смирно», не шелохнувшись. Пошевелился — получи по зубам. Стояли без головных уборов. Я застудил голову и заболел.

После проверки звучала команда: «По будам разбегайся, марш, марш!» В бараках было по трое дверей, в которые и бросались люди, а на них натравливали псов. Однажды меня сбили с ног, и я остался лежать последним перед дверью. Слава Богу, овчарки набросились на толпу, штурмующую дверь соседнего барака. Иначе не миновать мне второго «крещения», которое не заставило себя долго ждать.

Как-то позвали меня и Олексу в контору, отгороженную колючей проволокой от зоны. Перед дверью, на ступеньках стоял эсэсовец со шлангом. Мы подбежали трусцой без головных убо-

ров. Немец спросил: что вы хотите? Я стал объясняться. В это время зазвенел рельс «на проверку». Мы стремглав помчались в зону. Но эсэсовец нагнал меня и полоснул по стриженой голове. В глазах сверкнула молния, чуть-чуть не упал, из последних сил кинулся в зону. Эсэсовец не преследовал. Мы уже усвоили их привычки: если стоишь — прибьет, убегаешь — доволен. Целую неделю осматривал в осколок зеркала красный рубец, что пересёк всю голову.

В отдельном бараке содержали польских подпольщиков. Не раз приходилось видеть, как перед конторой у всех на виду их истязали. Били, выламывали суставы, подвешивали за связанные вместе руки и ноги на жердях.

Месяца через два после нашего «исправления» в лагере выдали отобранные карманные вещи, дали подписать бумагу: ничего не видел, ничего не знаю. Это был уже декабрь 1943 года. Отправили в Познань в «арбайтцамт» — на биржу труда, а отсюда — на завод, где работали чехи и поляки. Я штамповал детали на прессе. Работали по двенадцать часов.

На завод однажды приехала дочка бауэра, говорила, что её мама не против нашего возвращения. Но мы не согласились, ибо на заводе мы чувствовали себя немножко свободнее, хотя у бауэра кормили лучше. Вскоре меня снова арестовали по доносу бауэрши (вот подлая была!) как «юнгу-большевика». Вот когда аукнулся мой ей ответ…

Нас отправили в концлагерь Заксенхаузен. Двенадцать человек, спаренных наручниками, подвели к шлагбауму, втолкнули во внутрь лагеря. На площади маршировало человек пятьдесят, одетых в полосатые пижамы. Полукругом были расположены длинные, вместительные щитовые бараки. На бараках начертан лозунг латинскими буквами примерно такого смысла: «Работа даёт свободу».

С правой стороны дымит четырёхгранная кирпичная труба. Нам пояснили: из этой трубы вылетают к Боженьке в рай человеческие души. Нас поставили лицом к площади, спиной к проходной. Над нами по настилу прохаживается эсэсовец в каске. На вышках — пулемёты. Слева виднеется забор, метра три высотой,

кирпичная стенка. В стенку забетонировано стекло, колючая проволока, штыри. Лицом к стенке простояли, наверное, с час.

Потом завели в баню, раздели, забрали одежду, сказав, что отдадут по освобождении. Выдали полосатую одежду, номера, чёрной краской по белой материи. Мой номер был 76556. Добавили красный треугольник, а на треугольнике буква «Р» — русский, белорусов они не признавали. Направили в карантин. Здесь командовал «капо» по имени Фриц, у него треугольник был красный с обводкой, без буквы, это означало, что он — немец, политический заключенный, дезертир. Треугольники имели следующую классификацию: красный — за политику, чёрный — за саботаж, зелёный — бандиты, розовый — насильники.

В карантине возле меня очутились хорват и француз. С Мишелем я подружился. Заняли койки в третьем ярусе напротив друг друга. Даже после того, как перевели нас в концлагерь Хейнкель, дружба наша продолжалась. Здесь меня подкармливали его земляки, которые получали посылки через Красный Крест. «Капо» нас тоже не обижал, когда раздавал супчик, усаживал вместе с «элитой», и добавка «не мінала» ни меня, ни хорвата, ни Мишеля.

Ремонтировали мы дорогу в зоне концлагеря. Однажды работали возле блока норвежцев. Степенные и солидные, они расспрашивали меня о России, угостили баночкой шпрот и горстью пшена. Вот где довелось впервые попробовать белорусу заморского деликатеса. Делились продуктами с нами и военнопленные английские лётчики. На кухне работали русские парни. От них тоже кое-что перепадало, даже «клюмпе» — выделанная из дерева обувь с острым носом.

Изредка отправляли «полосатиков» на работу за зону, выстраивали по пять в рад, наши военнопленные музыканты играли марш. Самое большое физическое наказание в лагере — двадцать пять палок. Перед экзекуцией заключённого отправляли к лагерному врачу, и он выдавал справку, в которой указывал количество ударов штрафнику.

В лагере Хейнкель мой номер был 76556, поместили меня здесь в блоке для малолетних. Донимали бомбёжки союзников, некоторых из нас направили этапом под французскую границу,

недалеко от города Штутгарта. По дороге я ослабел, с голодухи стал припухать и после нескольких часов работы становился «дохлым». Потом попал в концлагерь под Ландсбергом, филиал лагеря Дахау. Здесь строили, ремонтировали дорогу. Таскали на себе тележки со щебнем.

27 апреля 1945 года лагерь был освобождён американскими войсками, и первый раз за три года неволи нас по-человечески накормили. Через месяц передали нас в городе Линце советской военной администрации. Там была проверка, а потом служба рядовым зенитной артиллерии на территории Австрии и Венгрии. В конце 1948 года был направлен в Прикарпатский военный округ, в город Черновцы.

А в сентябре 1949 года был арестован по обвинению в «антисоветской агитации». Это была ложь. Причина ареста заключалась в том, что меня освободили американцы, и я, мол, получил от них какое-то задание. Об этом всё время твердили следователи на допросах. Осудили на десять лет исправительных трудовых лагерей. Отработал более шести лет в Каргопольлаге Архангельской области на лесоповале.

Амнистирован после смерти Сталина в 1956 году. Работал грузчиком, потом шофёром в городе Дзержинске, в Донбассе. В 1962 году вернулся в родные Криницы. Женился. Родилось двое детей, сын и дочь. На месте старого, отцового, построил новый кирпичный дом. Заочно окончил Пружанский совхоз-техникум по специальности техник-электрик.

После моего обращения в Верховный Совет СССР в 1967 году военная коллегия пересмотрела моё дело, признала невиновным и сняла судимость «в связи с отсутствием состава преступления».

В 1972 году вместе с семьёй переехал в Брест. Дом, построенный в Кринице, продал по госцене колхозу. Работал шофёром, оператором газовой котельни, плотником, столяром, своими руками построил дом в Бресте.

Мой общий трудовой стаж — тридцать два года. С 1986 года на пенсии. Официально реабилитирован, имеются соответствующие документы.

Восемь лет я пробыл за колючей проволокой: полтора года в фашистских лагерях и шесть с половиной — в сталинских… Это были годы морального унижения, каторжного физического труда, боли и страданий. Сколько здоровья отняли они у меня!

Не даёт мне покоя одна мысль: почему мы до сих пор все «без вины виноватые»?




*Ворота концлагеря Аушвиц (в Освенциме) с надписью «Arbeit Macht Frei» — «Труд делает свободным». Эту надпись узники многих концлагерей ежедневно видели утром, когда их выводили на работу, и вечером, когда возвращались в свои бараки*

**МІЛЮК Павел Адамавіч**
*Да вайны жыў на хутары Гашчына Ляхавіцкага р-на.*
*Былы вязень Баранавіцкай турмы СД, канцлагераў*
*у Калдычэве, Трасцянцы, Аўшвіц (у Асвенціме)*
*і Грос-Розэн (Польшча).*
*Пражывае ў г. Ляхавічы.*

# Эх, каб я паслухаў палякаў...

Пасля двух месяцаў утрымання ў падвале Баранавіцкага СД мяне прывезлі ў канцлагер Калдычэва — кіламетраў за трыццаць ад Баранавіч у накірунку Навагрудка. Абвінавачвалі фашысты маю грэшную душу за сувязь з партызанамі, аднак даказаць канкрэтна віну не змаглі. Мяне, відавочна, палічылі «каштоўным таварам» для абмену на палонных немцаў, бо іх тады хапала, акурат урэзалі немчузе па карку пад Сталінградам.

Не буду адмаўляцца, што перад акупантамі быў я невінаваты. Да арышту 17 жніўня 1943 года зрабіў нямала, каб адпомсціць за расстралянага майго бацьку — Адама Сцяпанавіча Мілюка, які да акупацыі працаваў старшынёй Куршынавіцкага сельсавета Ляхавіцкага раёна, а таксама і за іншых ахвяр…

У Калдычэве нас трымалі тыдні два. Мала таго, што тут было галадна і холадна, дык яшчэ заядалі вошы. Нягледзячы на позднюю восень і замаразкі, ноччу выходзілі з барака, скідалі вопратку, старанна яе вытрасалі, апраналіся, зноў ціснуліся на нары, каб крыху адпачыць.

У пачатку лістапада 1943 года, раніцай нас выгналі з баракаў, пастроілі і пачалі адлічваць: айн, цвай, драй… Трэці — два крокі наперад. У такую тройку трапіў і я. Цераз гадзіну загналі ў машыны-душагубкі і павезлі ў канцлагер Трасцянец. Тут было

не лепш, чым у Калдычаве, нават горш, таму што ў бараках панавала страшэнная цеснага, а людзей усё заганялі і заганялі з розных куткоў Беларусі. Хоць гэта былі не людзі, а «прывіды», худыя, знявечаныя на допытах у гестапа, з выкручанымі пальцамі, з перабітымі рукамі, з ранамі на твары і целе. Сам я ў той час быў не лепшы за іх, ды ўсё роўна сціскалася сэрца і балела душа і за адабраную іхнюю маладосць, і за страчанае здароўе.

У Трасцянцы прабылі некалькі тыдняў, наладзілі сувязь з Мінскім падполлем, падрыхтаваліся невялікімі групамі ўцякаць з лагера. Наладзілі ўцёкі 29 лістапада, але не суджана было іх ажыццявіць: раніцай карнікі акружылі густым ланцугом увесь лагер, падагналі фургоны, з якіх і вош не ўцячэ, напхалі туды, як селядцоў у бочку, і павезлі на Мінскую чыгуначную станцыю. Тут пазаганялі ў вагоны так, што і стаць было недзе, а каб сесці, то і «кот не спяваў».

Цягнік ішоў вельмі марудна, доўга прастойваў на станцыях. Страшэнна даймаў холад у неабагрэтым цялятніку. Хацелася есці. Успамінаўся той любы момант жыцця на хутары Гашчына Ляхавіцкага раёна, калі мама раніцай выцягвала вілкамі некалькі вялікіх чыгуноў з печы з духмянаю, сыпкаю бульбаю, высыпала яе ў ёмісты цэбар і гаварыла: «Вазьмі, сынок, у свіронку пасітак ільняной мякінкі, дасып у бульбачку і стаўчы свінкам»… Я з задавальненнем выконваў матчына даручэнне, але перш з’ядаў некалькі параных бульбін нават з шалупіннем…

4 снежня 1943 года нас прывезлі ў Асвенцім. Не даязджаючы да канлагера некалькі кіламетраў, эшалон прыпыніўся. У вагон зайшлі паліцэйскія, усе яны размаўлялі па-ўкраінску, закамандвалі нам скінуць верхнюю вопратку і абутак, усё склалі ў вялікія мяхі і панеслі з сабою, развітаўшыся: «У вас усё роўна ў лагеры вашыя транты адбяруць».

Распранутых і босых на марозе нас дапнулі ў канцлагер.

Паліцаі не памыліліся. Той астатак апраткі, які яшчэ ліпеў на нашым знявечаным целе, загадалі зняць «на захоўванне». Потым усіх пагналі ў лазню, вымылі гарачай вадою і выгналі на пляц на дзве гадзіны голых і босых, дзеля «загартоўкі». З апошніх сіл змагаліся з холадам: падскоквалі на месцы, рабілі ўзмахі рукамі

і нагамі, але не хапала сіл. Прапоўз час, а на плошчы з некалькіх соцен чалавек засталося жывых некалькі дзясяткаў. Першая проба на загартоўку скончылася. Хто застаўся жывы і мог рухацца, таго ўціснулі ў барак, выдалі паласатыя штаны, такі ж «мундур», паласатую шапку-бесказырку і на ногі — драўляныя бахілы без ануч і шкарпэтак.

У бараку былі трохпавярховыя нары, без ніякага насцілу. На дошках паслана пацёртая цырата, цвёрдая як жалеза. Сціснуўшыся па шэсць чалавек на вузкіх нарах, мы правялі першую ноч. Раніцай лагерны звон (гонг) узняў усіх на апель (праверку). Хто марудзіў, атрымліваў моцны ўдар металічнай палкай па галаве. Гэта рабілі вязні Асвенціма аўстрыякі, яўрэйскага паходжання, якім гітлераўцы паабяцалі захаваць жыццё і вызваліць з лагера за іх адданую службу. Карнікі задаволена ўсміхаліся, хвалілі сваіх памагатых, а між сабою разважалі: «Хто можа ўпікнуць нас за здзекі з вязняў, мы — народ гуманны, зняволенныя б’юць адзін аднаго…» Нічога не скажаш, хітра прыдумалі душагубы… Толькі найміты памыліліся, вызвалення з канцлагера яны не атрымалі. Пасля года стараннай службы іх кінулі ў крэматорый.

Апель цягнуўся доўга. Карнікі некалькі разоў пералічвалі, выклікалі па спісе вязняў, злаваліся на тых, хто не адзываўся, а расшалопаўшы, што гэта прозвішчы памёрлых пасля лазні і загартоўкі, швергаталі між сабою: ах, дык яны ж — алес капут…

Урэшце апель скончыўся. Адзін з карнікаў загадаў: «У барак на сняданак!» Снеданне — паўлітра гарачай вады, хочаш — пі, хочаш — вылі. Пасля сняданку ізноў нас выстраілі на плацу. Доўга разглядалі кожнага паасобку, дужэйшых ставілі ў асобны рад, у які трапіў і я. Далі каманду нам ісці наперад, да вадасховішча, не надта вялікага, пакрытага тоненькім ільдом. Сярод карнікаў быў медык з нейкімі прычындаламі, сярод якіх мы заўважылі гадзіннік-секундамер і нейкія манометры. Зразумелі, што дабра чакаць не прыходзіцца, і не памыліліся. Адзін з карнікаў даў каманду: «У ваду!» Гэтая каманда неяк не адразу дайшла да нашага розуму. Пры тэмпературы ніжэй нуля — ды ў ваду! Аднак выбару не было: жалезная палка па галаве — таксама не мёд. Праз некалькі хвілін камандуюць: «З вады! Выкруціць адзежу».

Выкруцілі. А яны зноў: «У ваду!» Увесь час гэтага купання катмедык глядзеў на гадзіннік і нешта запісваў у блакнот. Пасля трохразовага «хрышчэння» дазволілі апрануць нашу паласатку, але апрануліся толькі пяць зняволеных, а сорак пяць засталіся на «Чудскім возеры». Ніхто з карнікаў не звяртаў увагі на знясіленых, паўжывых істот, што ляжалі на зямлі і ціха стагналі. Потым нас з горам напалам паставілі ў рад, і адзін з карнікаў вымавіў: «Вы будзеце жыць па дзвесце гадоў». Але нам было не да жартаў.

У снежні 1943 года на левай руцэ накалолі лагерны нумар. Пасля гэтага імя і прозвішча вязня не існавала, быў толькі нумар. Яшчэ і сёння, праз пяцьдзясят чатыры гады, на маёй руцэ «красуе» нумар 165596.

Пасля «водных працэдураў» я захварэў на плеўрыт. Мяне адправілі ў «бальніцу». Гэта быў такі самы барак, толькі трохі чысцейшы. «Лячылі» нас медыкі-вязні: кожны дзень мералі тэмпературу і ржавым шпрыцам выцягвалі з левага боку гной. Сёння дзівую сам з сябе, як я змог перамагчы такую хваробу ў голадзе, холадзе, без аніякіх медыкаментаў? Мусіць, маладосць і Божая літасць узялі сваё…

Значна пазней, калі я працаваў перакладчыкам у савецкай ваеннай часці, якая займалася нямецкімі ваеннапалоннымі, адзін афіцэр мне растлумачыў, чаму нас тады купалі: маладому ўрачу трэба было напісаць навуковую працу адносна ўстойлівасці чалавечага арганізма.

Нянавісць да людаедаў узрастала з кожным днём. Я цвёрда вырашыў: што б ні стала, з лагера ўцяку, але як? Летам 1944 года гітлераўская авіяцыя несла вялікія страты. Тысячы разбітых самалётаў фашысты звозілі на вялізны пляц недалёка ад лагера. Адна каманда разбірала самалёты, другая, у якой быў і я, складала гэтыя абломкі ў вышэзныя ярусы.

У другой палове верасня 1944 года, пад вечар нашы лётчыкі бамбілі ваенны гарадок непадалёк ад лагера, дзе жылі карнікі. У час паветранай трывогі канвой уцякаў у бамбасховішчы, строга наказваючы вязням не разбягацца, іначай усіх расстраляюць. Нехта з лётчыкаў бухнуў бомбу акурат у гару абломкаў варожых самалётаў. Як маланка мільганула ў маёй галаве думка ўцякаць, і

